Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 36 (915) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 9 ВЕРАСНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.



ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# ХТО ПРЫНОСІЦЬ СЛАВУ

Распачынаецца новы год вучняў і настаўнікаў. Як і папярэднія, будзе гэта перыяд увядзення новых дапаможнікаў, эксперыментаў і метадаў навучання.

Сярод многатысячнай арміі настаўнікаў распачынае чарговы навучальны год **Рыгор Анацік** — настаўнік Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. Ад моманту стварэння гэтага ж ліцэя Р. Анацік з'яўляецца настаўнікам фізікі і астраноміі, а працуе ўжо 25 год.

Р. Анацік аб'ядноўвае ў сабе такія станоўчыя рысы як: скромнасць, справядлівасць, працавітасць, правасць. З'яўляецца выдатным педагогам і дыдактыкам. Асягае вельмі добрыя вынікі навучання па свайму прадмету. Аб гэтым можа сведчыць хаця б і тое, што абсальвенты ліцэя, якія здаюць экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, — дзе адным з прадметаў ёсць фізіка, — не маюць цяжкасці. Як гавораць у школе, не было яшчэ выпадку, каб абсальвент ліцэя не здаў уступнага экзамену па фізіцы.

За 25 год настаўніцкай працы Р. Анаціку прышлося выпусціць шмат абсальвентаў. Многія з іх з'яўляюцца настаўнікамі, дырэктарамі школ, інспектарамі, многія навучаюць у школе фізікі. Некаторыя пайшлі следам свайго настаўніка і здабываюць веды на вышэйшых навучальных установах, здабылі навуковыя тытулы доктараў, сталіся дацэнтамі з чаго аж трох з'яўляецца навуковымі супрацоўнікамі Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку.

Адзін з абсальвентаў ліцэя, цяпер настаўнік, характарызуючы Р. Анаціка як настаўніка і чалавека сказаў: „Калі прыходзілася на ўрок да Р. Анаціка кожны з нас, вучняў ведаў, што тут трэба навучыцца, нішто не пройдзе міма вопытнага вока настаўніка і будзе справядліва ацэнена. А калі здарыцца, што не падрыхтаваў урока, дык аб гэтым абавязкова трэба было сказаць настаўніку перад урокам, што прыймаў з выразуменнем. Такім Р. Анацік і зараз: спакойны, не многа гаворачы, які не любіць лішняй „мовы", справядлівы".

Улады высока ацэньваюць педагагічную дзейнасць Рыгора Анаціка. Ужо некалькі год атрымлівае ён спецыяльны дадатак для перадавых педагогаў. За добрыя вынікі ў галіне выхаваўчай і дыдактычнай працы атрымаў Сярэбраны Крыж Заслугі, а ў канцы мінулага года ўдастоен Узнагародай Міністра асветы і выхавання III ступені.

А трэба ж ведаць, што Р. Анацік кожны дзень даязджае да працы з роднай вёскі Аўгустова. Умее спалучыць узорнае выкананне лекцыйных і пазалекцыйных абавязкаў у школе са штодзённым даязджаннем да працы, і што не мала важнае, з вядзеннем сельскагаспадарчай прадукцыі, так як сям'я яго мае гаспадарку.

Пра Рыгора Анаціка самыя настаўнікі гавораць, што гэта чалавек, які непасрэдна прыносіць славу настаўніцкай прафесіі.

Тэкст і фота **А. Карпюка**




# ВЕРАСНЁВЫЯ ЎСПАМІНЫ

У верасні нашы думкі заўсёды вяртаюцца да 1939 года. Вайна прызвала тады ў акопы сотні тысяч спакойных сейбітаў і рабочых, у тым ліку — нашых землякоў, жыхароў Беласточчыны. Сярод іх знайшоўся **Мікалай Бандарук** — сялянскі сын з Вулькі Нурэцкай у цяперашнім Сямяціцкім павеце. У 1939 годзе было яму 22 гады. 22 сакавіка гэтага ж года прызвалі яго ў армейскую службу. Быў салдатам першага батальёна штурмавых стральцоў. Трапіў у прыгранічны гарнізон пад горадам Хойніцы, які знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы цяперашняга Быдгаскага ваяводства. На захад за Хойніцамі былі ўжо немцы.

— Нашы казармы знаходзіліся ў 400 метрах ад граніцы, — кажа Бандарук. — Мы бачылі немцаў амаль штодзень. Выходзім, бывала, на заняткі, акопваемся, будуем агароджы з калючага дроту, ставім міны... І яны на сваім баку — гэта ж... Голым вокам відаць было, да чаго рыхтуюцца. Афіцэры нас падбадзёрвалі, паўтараючы агульнавядомыя лозунгі афіцыйнай прапаганды аб магутнасці польскай дзяржавы, аб неадменнай, неадкладнай і рашучай дапамозе заходніх саюзнікаў... Асабліва запомніўся мне адзін салдацкі мітынг, здаецца, яшчэ летам 1939 года. Цэлы наш батальён пастроілі на казарменнай плошчы. Прыехаў камандзір палка, падпалкоўнік Зацны і асабіста пачаў гаварыць. „Польшча, — кажа, — знайшлася між кавадлам і молатам". З яго прамовы зразумеў я толькі тое, што гэтым „кавадлам" лічыў ён Савецкі Саюз, а „молатам" была для яго гітлераўская Германія. Але тады сказаў ён нам і пра тое, пра што не пісалі газеты. Менавіта ад яго я даведаўся, што краіна Саветаў прапанавала Польшчы канкрэтную дапамогу, але польскі ўрад не захацеў прапусціць праз сваю тэрыторыю мільённай Чырвонай Арміі. Так нам тады тлумачыў падпалкоўнік Зацны...

Тут неабходна дадаць, што павятовы горад Хойніцы (у 1939 годзе — амаль 15 тысяч жыхароў) з'яўляўся вельмі важным стратэгічным пунктам у сістэме абароны краіны. Недзе ад яго пачынаўся гэты славуты надвіслянскі „калідор", якім даваенная Польшча мела доступ да мора, але які адначасова раздзяляў Заходнюю і Ўсходнюю часткі даўнейшай Прусіі. У Хойніцах крыжаваліся жалезныя і аўтамабільныя дарогі агульнадзяржаўнага значэння. Таму гэтым прыгранічным горадам асабліва цікавіліся штабныя афіцэры нямецкай арміі. Калі паглядзець ваенныя карты вераснёвай кампаніі, аказваецца, што менавіта ў раён Хойніц быў накіраваны галоўны ўдар гітлераўцаў, разлічаны на маланкавы перарэз прывіслянскага „калідора". З усяго гэтага вынікае, што наш зямляк трапіў у сапраўднае пекла.

— Ноччу з 31 жніўня на 1 верасня, — адказвае ён, — трымаў я варту. Недзе пасля поўначы адпусцілі мяне з паста і пайшоў я адпачываць. Заснуў цвёрда. Раптам разам з пасцеллю абудзіўся на падлозе. Вакол раздаваліся ўзрывы, ляцелі асколкі, шкло і абломкі мэблі, стагналі параненыя. Я не паспеў яшчэ ўласціва ўсведаміць усяго гэтага, а ўжо аб'явілі баявую трывогу. Нахаду апранаючыся, мы занялі загадзя падрыхтаваныя да абароны ўмоцненыя акопы. Над нашымі казармамі і над горадам безупынку рваліся снарады. Нашых акопаў яны таксама не абміналі. Немцы, відаць, добра ведалі, дзе што знаходзіцца, бо першымі залпамі разбілі нашы казармы і вадакачку. Зараз жа паявіліся нямецкія салдаты — нашы „знаёмыя" з прыгранічных заняткаў. Магчыма, таму мы іх і не пабаяліся. Ішлі яны смела, у поўны рост, як на парад. Дык і прывіталі мы іх „гасцінна", не шкадуючы свінцу і жа-

(Працяг на стар. 5)

# НАДБУЖЖА НЕ ТОЛЬКІ ЧАКАЕ...

Ужо восень залоціць ліст, і ўсё часцей да сэрца падкрадаецца сум па адным яшчэ адышоўшым леце. І ў такі час лірычнага настрою варта задумацца, ці ўсе прыемнасці мінуўшага лета мы скаштавалі?

Нам хочацца закінуць некалькі слоў у карысць беластоцкіх, радзімых мясцін, дагэтуль неспазнаных і нават не адкрытых адпачываючымі.

Хто хоць раз глянуў на прыгажосць Надбужжа з гары Ушэсця, што высіцца над Мельнікам, акунуўся ў пяшчотную бужанскую хвалю каля Волькі, паставіў босую нагу на серабрысты пясок пляжы ў Агародніках ці праехаўся лодкай бліз Драгічына, той не толькі не забудзе чароўнасці Надбужжа, але пастараецца як мага хутчэй зноў наведаць яго. Апрача вады, пяску і сонца тут кожны знойдзе нешта займальнае: спартсмены — байдаркі і лодкі, любіцелі парыбачыць — ціхія рыбныя тоні, грыбнікі — сасновыя лясы, зацікаўленыя старажытнасцямі — таямнічыя стаянкі людзей з эпохі мезаліту, сярэднявяковыя курганы і рэшткі ўмацаванняў, прыхільнікі фальклору — багацце народных песень, нават аматары геалогіі знойдуць цікавыя экспанаты ў мельніц-

Працяг на стар. 4



 



20 тысяч дэлегатаў і некалькі тысяч запрошаных гасцей аглядала 300 танцавальных пар на пліце дажынкавага стадыёна.

# ВЯЛІКАЕ СВЯТА ЎРАДЖАЮ Ў БЕЛАСТОКУ

Ад самай раніцы ў нядзелю 2 верасня запаўняліся месцы на святочна ўпрыгожаным стадыёне „Гвардыя" ў Беластоку. Сталіца нашага ваяводства прымала гасцей, якія прыехалі сюды, каб святкаваць традыцыйнае дажынкавае свята — Цэнтральныя дажынкі-73. На ўрачыстасць прыбылі жанцы і дэлегацыі рабочых калектываў з усёй Польшчы, жыхары Беластока і ваяводства.

Пунктуальна ў 10 гадзін раніцы на запоўненым да апошняга месца стадыёне ўзнімаюцца бурныя воплескі. Гэта прысутныя вітаюць займаючых месцы на ганаровай трыбуне прадстаўнікоў найвышэйшых улад: **І Сакратара ЦК ПАРП Эдварда Герка, Старшыню Рады Дзяржавы Генрыка Яблонскага, Старшыню Рады Міністраў Пятра Ярашэвіча, членаў Палітбюро, НК ЗСЛ, ЦК СД, ФАН, членаў Рады Дзяржавы і ўрада.**

На дажынкавыя ўрачыстасці прыбылі таксама дэлегацыі ЦК Камуністычнай партыі Літвы і Абласнога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ў Гродна.

Прысутнічалі таксама прадстаўнікі



*Гаспадар дажынак Э. Герэк прымае традыцыйны бохан хлеба з рук старасты дажынак Я. Яблаshowўскага і старасціны В. Мартыновіч.*

дыпламатычных пляцовак, акрэдытаваныя ў Варшаве.

Гучыць мелодыя нацыянальнага гімна, а затым мелодыя рэвалюцыйнага сялянскага гімна „Калі народ у бой..." Прэзас Цэнтральнага саюза сельгасгурткоў **Ежы Мацяк** пасля прывітання прадстаўнікоў улад, жанцоў і гасцей апавяшчае адкрыццё цэнтральных дажынкавых урачыстасцей.

Фанфарысты ў каляровых нацыянальных уборах на трэмбітах распачынаюць абрадавую частку дажынак. Чуваць спевы жаваранка, спявае певень, ноціць песню жанчына, чуваць праца трактарнага матора. На пліце стадыёна ўсё ажывае. Гэта прабуджаецца вёска да новага дня.

Гучыць народная мелодыя, а 300-асабовы танцавальны калектыў танцуе аберак і польку. З вуглоў стадыёна на пліту ўваходзяць народныя капелы. Ізноў чуваць голас трэмбіты. На гэты раз апавяшчае яна ўваход цэнтральнага вянка. На чале дажынкавага карагода староста і старасціна, а побач сяляне-перадавікі нясуць гаспадару дары.

Вянок набліжаецца да сярэдзіны стадыёна. Да ганаровай трыбуны падыходзяць народныя капелы. Музыкай і народнымі прыспеўкамі, як кажа абычай, запрашаюць гаспадара дажынак на пліту стадыёна.

Эдвард Герэк, Генрык Яблонскі, Пётр Ярашэвіч, Станіслаў Гуцва, Анджэй Бэнеш, Ян Грашкоўскі, Юзэф Акунеўскі і Ежы Мацяк сходзяць з трыбуны.

Моўкнуць капелы, а на стадыёне раздаецца старадаўняя песня жанцоў „Плён нясем, плён..." Гэта апавяшчэнне найбольш урачыстага моманту дажынак.

**Старасціна Вера Мартыновіч з ВРГР Голдап і староста Ян Ябланоўскі з Ябланова-Вышыхі Лапскага павету ў суправаджэнні маладых гаспадароў Тэрэсы Можы з Клапошаў-Вуйнаў Сямяціцкага павету і Тадэўша Вішнеўскага з Мазуркаў Аўгустоўскага павету ўручаюць гаспадару дажынак Эдварду Герку бохан хлеба — сімвал сёлетняга ўраджаю. „Уручаем Вам, дарагі гаспадар, —** гаворыць староста, — **традыцыйны бохан хлеба. Мы перакананы, што як і дагэтуль будзеце яго дзяліць справядліва, згодна з магчымасцямі і патрэбамі краіны і народа".**

Эдвард Герэк, прымаючы бохан хлеба, гаворыць:

**„Дзякую ўсёй польскай вёсцы, усім польскім гаспадарам за вельмі добры сёлетні ўраджай. Дзякую вам за гэты прыгожы бохан хлеба, спечаны з сёлетняга збожжа. Будзьце перакананы ў тым, што будзем дзяліць гэты сімвалічны бохан хлеба справядліва, так, каб хапіла ўсім сынам і дочкам усёй нашай польскай зямлі".**

Гаспадар дажынак запрашае старасціну і старасту, а таксама суправаджаючую іх моладзь за дажынкавы стол. Са словамі песні „Прынеслі мы плёны, плады працы люду..." першая перадавіца складае перад гаспадаром мініятуру вянка. На дажынкавым стале гаспадыні складаюць дары нашых палёў, садоў і агародаў.



*Народная лавіцкая капела.*



*Больш трох метраў вышыні мей дажынкавы вянок.*

Слова мае Старшыня Савета Міністраў Пётр Ярашэвіч. Гаворыць ён.

„Уся краіна вітае гаспадароў сённяшніх дажынак — гаспадароў гасціннай Беластоцкай зямлі. Гэта яны вынікамі сваёй напружанай працы ўпаўне заслужылі на гонар арганізавання ў сябе сёлетняга свята ўраджаю.

У сельскай гаспадарцы Беласточчыны на працягу многіх год былі нездавальняючыя вынікі. У апошнім часе аднак яна хутка перамагае адсталасць, і таму ў некаторых галінах мае найвышэйшую ў краіне дынаміку росту прадукцыі. Пацвярджаюць гэта атрымліваемыя цяпер ураджаі, прырост пагалоўя свіней, а таксама — каб прывесці больш падрабязны прыклад, развіццё прадукцыі і скупкі трускалак, што сёння ставіць Беластоцкае ваяводства ў рады перадавікоў па вырошчванню гэтай культуры.

Беластоцкім гаспадарам, дзеячам і спецыялістам жадаю далейшых плённых вынікаў у дынамічным развіцці сельскай гаспадаркі і ўсёй гаспадаркі прыгожай Беластоцкай зямлі і складаю гарачую падзяку...

...Вітаю жыхароў Беластока, якія так сардэчна прынялі дажынкавых гасцей у сваім будуючымся прыгожым горадзе, пра які так задбалі, так яго ўпрыгожылі і гасцінна нас усіх прынялі".

У далейшым П. Ярашэвіч гаворыць аб лепшай арганізацыі працы, аб механізацыі сельскай гаспадаркі, інтэнсіфікацыі прадукцыі збожжа і корму, аб сельскай гаспадарцы як інтэгральнай частцы праграмы будовы сацыялізму.

Пасля выступлення П. Ярашэвіча распачалося каляровае відовішча. Прысутныя з захапленнем аглядаюць парад ваенных аркестраў. На пліту ўваходзяць найменшыя ўдзельнікі відовішча — прадшкалякі Беласточчыны. Іх выступленне выклікае энтузіязм. Дзеці, махаючы вяночкамі, развітваюцца з гасцьмі, а на пліце група моладзі ў арганізацыйных уборах, што выконвае масавыя маладзёжныя танцы. І зноў на стадыёне ўдзельнікі розных народных калектываў. Тэмпераментныя гуральскія танцы.

Дажынкавую ўрачыстасць заканчвае парад удзельнікаў мастацкай часткі, амаль 3,5 тысячы дзяўчат і хлопцаў, членаў 87 рэгіянальных калектываў.

А над стадыёнам каляровыя агні і малыя парашуцікі з каляровымі сцягамі.

Справаздача і фота
**Аляксея Карпюка**



*Кракавяк.*



*Прадстаўнікі 800-асабовай групы беластоцкіх прадшкалякаў.*

 




# ПЕРШЫ САЛІСТ

Першую ўзнагароду ў катэгорыі салістаў на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня — 73“ заваяваў Аляксандр Бандарук з Старога Ляўкова, прамысловай вёскі ў Гайнаўскім павеце. Заспяваў ён дзве песні: узнёслую, пафасную „Ой, Нёман“ і лірычную, любоўную „Ты мне вясною прыснілася“. Першая песня А. Бандаруку прыйшлася больш па душы, чым другая. Ён сам аб гэтым гаворыць. Яна проста больш падыходзіла да яго характару. Цікава! Бо голас жа ў Шуры Бандарука — лірычны тэнар.

Шура нарадзіўся, можна сказаць, у музычнай сям'і. Маці родам з-пад Нарвы, любіць спяваць і многа даўнейшых песень ведае. Нарадзілася ў сям'і пяць хлапцоў — братоў і ўсе з галасамі. Потым, калі Шура Бандарук вучыўся ў будаўляным тэхнікуме ў Беластоку, спяваў у школьным хоры. Потым, служачы ў войску, прымаў удзел у ваяводскім аглядзе савецкай песні ў Познані і заняў першае месца. Потым доўга не спяваў. Пакуль не прыйшоў павятовы агляд „Беларускай песні — 73“. Прыняць у ім удзел А. Бандарука намовіў сакратар гайнаўскага аддзела Віктар Бура, а песні яму выбраў і падрыхтаваў яго крыху Аляксандр Лукашук з гайнаўскай культурна-асветнай парадні. Такім чынам выступіў наш саліст і, бачыце, як добра выйшла?

Аляксандр Бандарук жыве і працуе ў Старым Ляўкове. Ажаніўся з настаўніцай — чорнавалосай Нінай. У іх ужо ёсць дачка, 11-месячная.

Гаворым мы пра стараляўкоўскія таленты. Успамінаем, як слаўна калісьці спявалі ў Ляўкове. А кіраваў імі тады кіраўнік школы Васіль Цялушэцкі — сам з дасканалым, чыстым і звонкім тэнарам.

І цяпер талентаў многа ёсць у Старым Ляўкове. І Вера Рээнт, і Зоя Рээнт, і Валя Саевіч, і Косця Максімюк. Чаму ж бы іх не выкарыстаць? І чаму толькі адна асоба з Ляўкова прыняла ўдзел у аглядзе?

Мой субяседнік кажа: „Каб ужо цяпер пачынаць рыхтавацца да агляду, можна б яго лепш правесці і ўзровень быў бы вышэйшы“.

Здаецца, сам Аляксандр Бандарук ужо заразіўся бакцылай песні. Ці за яго прыкладам пойдуць іншыя таленавітыя спевакі ў вёсцы? Няхай бы вярнуліся спявачыя традыцыі гэтай вялікай вёскі! (вл)

## Беларусіяна

У чарговым, трэцім нумары за бягучы год часопіса „Slavia Orientalis“ (органу Камітэта славяназнаўства Польскай акадэміі навук) навуковы працаўнік Варшаўскага ўніверсітэта др Аляксандр Баршчэўскі памясціў артыкул „Палякі і польская літаратура ў жыцці Янкі Купалы“. Аўтар, абапіраючыся на багатых крыніцах, а перш за ўсё на аўтабіяграфічных матэрыялах вялікага беларускага паэта, падкрэслівае, што польская культура і дзеячы польскага вызваленчага руху (удзельнік студэнцкага паўстання Зыгмунт Чаховіч) адыгралі вялікую ролю ў станаўленні Янкі Купалы як асобы і творцы. А. Баршчэўскі сцвярджае таксама, што гаворачы „аб ролі польскай літаратуры ў фармаванні асобы і творчасці Купалы трэба падкрэсліць, што захапленне гэтай літаратурай з боку Купалы вынікала з непераходзячых каштоўнасцей польскіх літаратурных здабыткаў, а таксама з тэматычных сувязяў гэтай літаратуры з беларускімі землямі“. (мг)

НАШЫ СЯБРЫ

# Дзімітр Назарук

Селянін з вёскі Вулька Тэрэхоўская Гайнаўскага павету Дзімітр Назарук мае добрыя вынікі ў сельскагаспадарчай прадукцыі. Вядзе ён 13-гектаровую гаспадарку. У 1971 годзе дабіўся найлепшых поспехаў: высокіх ураджаяў збожжавых культур і добрых вынікаў у жывёлагадоўлі. Пад пасевы і на сенажаці высеяў больш 6 тон мінеральных угнаенняў. На эфекты таксама не прыйшлося доўга чакаць. Дзяржаве прадаў ён каля 10 тон збожжа, 11 штук свінней і 7 кароў. Як узнагароду атрымаў Залаты крыж заслугі. Цяпер Дзімітр Назарук не мае надта вялікіх вынікаў у прадукцыі на сваёй гаспадарцы. Перашкодзіла хвароба. Яму не можна цяжка працаваць. Аднак гаспадарка ў яго на добрым узроўні. У цяжкіх палявых работах яму дапамагае ў першую чаргу сельскагаспадарчы гурток са Ставішчаў. Асаблівую ўвагу прывязвае да гэтага дыспетчар гэтага сельгасгуртка Аляксандр Саўчук.

Дзімітр Назарук мае добрыя, некаторыя мураваныя, будынкі і частку ўласных сельскагаспадарчых машын, пры дапамозе якіх аблягчае сабе працу.

Дзімітр Назарук з'яўляецца сталым чытачом „Нівы“. (ця)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**ДЗЕ НАЙЛЕПШ І ДЗЕ НАЙГОРШ ЯДУЦЬ?**

Найлепш аджыўляюцца жыхары Злучаных Штатаў Амерыкі (3300 калорый штодзённа на асобу) і Савецкага Саюза (3180 калорый). Найгорш аджыўляюцца жыхары Танзаніі (1700 калорый на асобу).



## У РЫТМЕ ТАНЦА

**Танцавальная група з Белавежы на фэстыне ў Збучы.**

**Фота М. Хмялеўскага**

# На зямлі ЗША помнік Я. Купалу

Як паведамляе „Голас Радзімы“, 1 чэрвеня г.г. у Араў-парку (ЗША) адбылася вялікая ўрачыстасць. Прадстаўнікі прагрэсіўнай рускай, беларускай і ўкраінскай грамадскасці ЗША, а таксама людзі іншых нацыянальнасцей сабраліся сюды, каб адзначыць 25-годдзе Араў-парку і прысутнічаць на адкрыцці помніка вялікаму песняру беларускага народа Янку Купалу. З усёй краіны ў парк прыехала звыш тысячы чалавек.

На ўрачыстасці да суайчыннікаў прыбылі беларускі пісьменнік Андрэй Макаёнак, аўтар помніка скульптар Анатоль Анікейчык і супрацоўніца савецкай місіі пры ААН Вольга Новікава.

Прагучаў амерыканскі нацыянальны гімн, які выканаў вядомы оперны спявак А. Голуб. Урачысты мітынг адкрыў старшыня камітэта культурнага праекта Уладзімір Мінкевіч. Ад імя прысутных і ўсіх людзей добрай волі ў Амерыцы ён шчыра падзякаваў савецкаму народу за каштоўны падарунак — помнік беларускаму паэту, і выказаў надзею, што ў Араў-парку ўдасца паставіць помнік і вялікаму польскаму паэту Адаму Міцкевічу. З прамовамі выступілі таксама савецкія госці. Пасля ўкраінскі хор імя Леантовіча і жаночы хор „Бярозка“ выканалі беларускія і ўкраінскія народныя песні, а маладзёжная група танцавальнага ансамбля „Юла“ беларускія народныя танцы.

## Этнаграфічнае акенца



Пасека Яўгенія Грыкі са Свінарыяў Гайнаўскага павету.

Фота Я. Цялушэцкага.




# Клёс у Белавежы

Выйшла другое выданне „Духа Белавежы“ А. Амільяновіча. Як відаць, кніжка заваявала чытальніцкую публіку. Аб гэтым сведчыць таксама нядаўні сандаж, праведзены ў кнігарнях і апублікаваны ў цэнтральнай прэсе. „Дух Белавежы“ ў маламестачковым асяроддзі (і зусім не на Беласточчыне) займае перадавыя пазіцыі. Вядома, справа тут у літаратурным гатунку. З'явіўся новы Клёс. А такога героя любіць без памяці радавы (значыць і шырокі) чытач. І нелагічнымі з'яўляюцца адносіны пісьменнікаў да капітана Клёса: зусім не зайздросцяць ягонай славе і не імкнуцца пашыраць рады яго саратнікаў. Несумненна, выяўляюцца тут панскія адносіны да плебею літаратуры, якімі лічацца аўтары сенсацыйных аповесцей. Але ці толькі гэта? Ці часам не адольвае іх творчая немач?

Сапраўды, ці многім пад сілу паўнакроўны Клёс? Такі, напрыклад, як Кміціц ці Валадыёўскі. Прыгодніцкая літаратура, калі да яе падыйсці ўсур'ёз, улічыўшы пазнавальныя, выхаваўчыя, маральныя і іншыя падобныя аспекты, цяжкі і адказны занятак.

Ці справіўся з ім Амільяновіч? З першай да апошняй старонкі „Дух Белавежы“ трымае чытача ў напружанасці. Кніжку хочацца чытаць, але адначасова, з ходам падзей, нарастае недавер да аўтара. Ужо ж вельмі лёгка ўсё ўдаецца нашаму Штангеру. Трапіўшы ў логава нямецкай разведкі, ён, бы немаўлят, абмотвае навокал пальца мацёрых ваўкоў. Пры тым у сітуацыях, у якіх толькі наіўных можна вывесці ў чыстае поле. А разведчыкі „Горн“ нацэлены на цэнтральны участак Усходняга фронту. Значыць, складаліся яны з адборных асаў. Значыць, і дзейнасць Штангера сярод іх павінна быць куды больш складанай. Гэтага не выйшла. Прадстаўнікі варожага лагера нарысаваны паводле выцертага ўжо штампа. Складаюцца яны з двух ваюючых паміж сабой лагераў: інтэлігентных разведчыкаў — прафесіяналаў і бяздарных дылетантаў з гестапа. На гэтым канфлікце і дзейнічае Штангер. І парадокс: поўнасцю яму давяраюць прафесіяналы (якія, дарэчы, выглядаюць даволі сімпатычнымі малымі), а выкрываюць яго сапраўдную ролю дылетанты. Давялося аўтару трапіць у пастку, якую сам паставіў.

Аповесць пабудавана на літаратурнай фікцыі. Але асаджана ў гістарычнай мясцовасці. Не ведаю, у якой ступені можна ў такім выпадку стварыць падзеі, якіх фактычна, не было.

Незаслужаная слава ці недацэненыя заслугі дзейнічаюць аднолькава: выклікаюць незадавальненне. Думаю аднак, што тэрмін „беларуская паліцыя“, якім аўтар называе мясцовых бобікаў — лішняя і шкодная фантазія (як вядома, ніякай беларускай паліцыі тут не было: гэтыя органы немцы камплектавалі не па нацыянальных прыкметах).

Поўнасцю ўдачнай можна назваць постаць партызанскага камандзіра „Нікара“. Фактычна ён і з'яўляецца духам пушчы. Таямнічы, адчайны, нечакана з'яўляецца там, дзе трэба. І пры ўсіх ўмоўнасцях, не выклікае засцярог. Аднак, у адрозненне ад Штангера, дзейнічае ён у менш складаных абставінах. Яго справа — толькі лупіць.

Што тады ў цэласці прадстаўляе сабою „Дух Белавежы“? Нягледзячы на крытычныя заўвагі, бачу яго асаблівую ролю ў папулярызацыі Белавежскай пушчы. Уяўляю патокі экскурсантаў, якія шукаць будуць у пушчы слядоў „Духа“. І калі кіраўнікі, адказныя за турыстыку ў Белавежы, акажуцца на ўзроўні, зробяць з гэтага капітал. А дарэчы: чаму ў цэлай Белавежскай пушчы, пазнакаванай рознакаляровымі турыстычнымі шляхамі, няма ніводнай адпаведна рэканструяванай партызанскай зямлянкі? Чаму толькі спарахнелы дуб, пад якім мог адпачываць (але не вядома ці адпачываў) у час палявання Ягайла, або невядомага паходжання замчышча павінны быць магнітам, дзейнічаючым на ўяўленні турыстаў? Ці апошняя вайна пакінула ў Белавежы менш трывалыя сляды?

Дакументаваў іх не раз і аўтар „Духа“. І магчыма таму не да спадобы мне гэты „Дух“, бо бачу Амільяновіча толькі як дакументаліста.

**Г. Валкавыцкі**

# ТРЫБУНА чытачоў




### РАДУГА

Бура даўно
ўжо мінула,
апошняя маланка
згасла,
над намі
чыстае неба
без хмар,
а на ім
рознаколерная
радуга —
гэта знак,
што людзі
могуць спакойна
выйсці на сустрэчу
шчасця.

**Ніна Матысюк**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

### УЗЛЯЦЕЎ

Людзі ходзяць па зямлі
і ўзнімаюцца высока.
І ў нашым тут павеце
Хтосьці ўзняўся на ракеце.
Як ён узляцеў,
Вельмі моцна закрычаў:
„Людзі, памажыце мне
Узляцець яшчэ вышэй,
Бо замала дастаю грошай“.
Тыя ж людзі, ці ж не дзіва,
Паднялі яго на брыгадзіра,
Але ён ды як не крыкне:
„Я ж яшчэ хачу вышэй!“
І пайшоў наш Янка —
Яго выбралі за дэлегата.
У дэлегацыі прабыў два дні,
А потым пайшоў у дырэктары.
Ох, які ж ён быў дырэктар —
Цэлы дзень сядзеў за сталом
І ўсё думаў, як дастаць дыплом.
Але ж штосьці яго доўга не было
І гэта Янку разгневала.
„Падымайце мяне яшчэ вышэй!“
Ды вышэй ужо ён не падняўся,
Бо на зямлю з гукам зваліўся.

**Янка Здоўскі**

### ПІВА

Што за цуда, што за дзіва
Робіцца ў Спічках,
Бо у склеп прывезлі піва,
Не ў бутэльках, а ў бочках.

Усе ў склеп прыбеглі жвава.
Ужо ў чарзе усе стаяць,
А ці добрае тут піва?
Трэба яго спрабаваць.

Добра — хлопцы адказалі,
Бочку піва трэба браць,
Ідзем у жыта блізка Валі,
Будзем там мы папіваць.

Усе пайшлі, у жыце селі,
Хутка бочку адкрылі,
Сталі піць, чуць не памлелі,
Так на піве аджылі.

Ці ж здурэлі вы ўжо хлопцы,
Толькі піва папіваць?
Напіліся ўжо даволі,
Ідзіце лепш дамоў паспаць.

**Васіль Асеннік**

дзем хутчэй у хату, там вас чакае лейтэнант Кругер.

— А адкуль ты ведаеш маё прозвішча?

— Лейтэнант сказаў, ён жа ваяваў разам з вамі!

Мішэль спыніўся, уважліва гледзячы на „Івана“. Той таксама ўстаў.

— Ну і парадкі тут у вас! Ці не вельмі многа размоў? — Ён перайшоў на нямецкую мову.

— Па-нямецку разумееш?

— Навучыўся, — адказаў Скляны.

— Ну добра, ідзём, зараз зробім сюрпрыз? — Скляны нясмела ўсміхнуўся.

— Убачыш, толькі не забягай наперад! Вазьмі мой руказак.

Ведучы мірную гутарку, яны дайшлі да хутара. У хаце яны ўбачылі лейтэнанта Кругера, які ўсё яшчэ моцна спаў, паклаўшы на стол сваю калматую галаву.

— Ён што, п’яны? — запытаў шэптам Мішэль.

— Не, проста не спаў уначы. Мішэль падышоў да Кругера і пакратаў яго за плячо.

Кругер ускочыў на ногі.

— Вы моцна спіце, лейтэнант, а час не для сну!

(Працяг будзе)

## У гасцях у роднай вёсцы

Пасля 40-гадовай разлукі, мне давялося зноў быць на Беласточчыне ў роднай вёсцы Валілы.

Вось і наша ліпа ля дарогі. Яе пасадзіў мой дзед у той час, калі я нарадзіўся. А вось і хата Івана Адамчыка. У яго хаце калісьці была школа, у якой я вучыўся польскай мовы. Памятаю, любіў дэкламаваць верш „Прысяга Тадэуша Касцюшкі на Кракаўскім рынку“ і верш „Гуралі“ Марыі Канапніцкай.

Многа спаткаў я ў Валілах знаёмых мне людзей і хат. Як людзі так і хаты пастарэлі, здаецца сталі меншымі. На захад ад вёскі відаць наш лес, куды я не раз хадзіў па грыбы. За рэчкаю Супрасль усё так, як і калісьці шуміць слаўны лес. Гэты лес многа ўсяго бачыў. Гэты лес помніць слаўнага беларускага сына Кастуся Каліноўскага і яго дружыну. У гэтым жа лесе злажылі свае галавы паўстанцы 1863 года, а іх брацкая магіла знаходзіцца ва ўрочышчы „Перацес“. У „Перацесе“ ў 1920 годзе хаваліся беларусы, каб не трапіць у легіёны Пілсудскага. У „Перацесе“ знайшлі сваё сховішча партызаны ў Вялікую Айчынную вайну.

Стаяў я гэтак над рэчкай і думаў. І ўспомніў год 1929, калі мы ўсёй сям’ёй пакідалі родную вёску і ехалі за акіян. У Беласток адвозіў нас наш дзядзька П. Чапель з Падзалук. Яго калёсы сумна скрыпелі, а нам і без таго было цяжка на сэрцы. Ехалі мы і не ведалі, што нас чакае. Адны зязюлі праводзілі нас аж пад Беласток, пакуль не скончыўся лес.

Усё гэта я перабіраў у думцы і быў шчаслівы, што зноў бачу гэтае месца, лес, хаты, людзей.

**Я. Грыцук**
Ташкент




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне 17 год. Жыву я на вёсцы, але вучуся ў горадзе. У лютым гэтага года пазнаёмілася я з Васем. Разам мы хадзілі ў кіно, на прагулкі, нават разам вучылі ўрокі. Было нам добра. І мне нават не прыйшло ніколі на думку, што мы расстанемся. Аднак гэтак сталася. Вася ўбачыў, як я гаварыла з другім хлопцам. На другі дзень перастаў да мяне адзывацца. Але праз некалькі дзён я з ім пайшла ў школу на вечарынку. Гуляла толькі з ім. Пасля вечарынкі правёў мяне дамоў. Дагаварыліся на наступны дзень у школе спаткацца. Ён прыйшоў, але да мяне не адазваўся. І так ад мая мы ўжо з сабой не ходзім. Я нават не ведаю, чаму ён так зрабіў. Не сказаў мне нічога. Я яго не магу забыць. Я толькі аднаго яго кахала і кахаю далей. І калі ён да мяне не вернецца, я нікога іншага не пакахаю. А што ты на гэта, „Сэрцайка“?

**Рая** з Беластоцкага

**Рая!** Спачуваю табе. Пакахала ты хлопца, а ён адышоў без слова. Ці вернецца? Цяжка сказаць. Кахаць нікога не прымусіш. Але і расстацца хлопец павінен з дзяўчынай культурна. Трэба нейк далікатна сказаць дзяўчыне аб усім. Хоць будзе ёй прыкра, але будзе ведаць праўду. І трактаваць хлопец павінен дзяўчыну як сяброўку, а тым больш у тваім выпадку, калі вы абое ў адной школе. А Вася зрабіў вельмі нетактоўна. Па-першае, перастаў гаварыць з табой, калі ўбачыў цябе з іншым хлопцам. А ці ж магчыма ў школе да нікога не адзывацца? Па-другое, дамовіўся спаткацца і не адазваўся да цябе. А ты і прычыны не ведаеш. Гэтак брыдка! А ты, Рая, не падай духам! Гэта няпраўда, што ўжо ніколі нікога не пакахаеш. Ты вельмі маладая і яшчэ не адзін хлопец табе спадабаецца. А кожнае наступнае каханне не будзе горшым ад першага. **„Сэрцайка“**

## Прапановы для Бельска

### ПЕСНЯ АБ ЧОРНЫМ БАРАНЕ

У першых класах пачатковай школы і ў дзяцінцах часта можна пачуць, як дзеці спяваюць песню аб чорным Баране ці аб Козліку бабулькі. Добра было б, каб гэта была не толькі песня, але каб дзеці маглі ўбачыць жывога чорнага, з круглымі рагамі барана, або шэранькага козліка.

Будучы ў Хажове Велькапольскім бачыў я ў парку сарнаў і аленяў. Дзеці ахвотна глядзелі на гэтых звяроў. Частавалі іх сухой булкай, праз сетку гладзілі па галаве. Звяры настолькі прывыклі да дзяцей, што не баяліся іх зусім.

Трэба падумаць, каб і ў Бельску арганізаваць жывы куток звяроў і птушак. Месца для гэтага ёсць вельмі добрае каля стаўка пры беларускім ліцэі ў Бельску. Тут ужо ёсць лебедзі, а можна дадаць белага, ці шэрага гусака, індзюка, прыгожага пеўня, качара ці бажанта. Дзеці пазнавалі б свет звяроў і прыроду і можа менш рабілі б непаладкаў.

### ВЯСЁЛАЕ МЯСТЭЧКА Ў БЕЛЬСКУ?

У свой час на сходзе ПОП я паставіў справу, як збудаваць вясёлае мястэчка на Глінках пры вуліцы Гагарына ў Бельску. Старшыня гарадской рады нарадовай у Бельску тав. Рэзлер сказаў, што прылады для дзіцячых гульняў ёсць у кожным дзіцячым садзе. Усім аднак добра вядома, што ў дзіцячым садзе бываюць не ўсе дзеці, а нават іх значная меншасць. Большасць дзяцей могуць толькі слінку глытаць. Наша палітыка кіруецца на пашырэнне апекі над дзяцьмі, а ў сувязі з тым мы павінны дзецям даць магчымасць усебаковай, добрай і арганізаванай гульні. Мне здаецца, што на такую справу і грошы, і ахвотнікі павінны знайсціся.

У школьных майстэрнях моладзь можа нарабіць розных гойданак і паставіць іх пры кожнай школе, на кожнай публічнай плошчы сярод зелені, пры кожным блёку.

Такія вось мае прапановы для бельскіх дзяцей. Што на іх скажа чытач і ўлады горада?

**Нестар Перавой**
Бельск

## Актывісткі БГКТ



Яны з чацвёртага класа Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Надзя Трашчотка і Лена Сахарчук. Маладыя актывісткі Беларускага таварыства. Фота **В. Бура**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Bielsku Podlaskim po zbadaniu spraw poruszanych w notatce prasowej „Niwy” — potwierdza fakty w niej zawarte, a dotyczące nieprzestrzegania przepisów przeciwpożarowych przez Przedsiębiorstwo „Las” oraz niewłaściwego usytuowania wysypiska śmieci przy drodze Bielsk Podlaski — Kotły.

W obu sprawach już wcześniej zostały podjęte kroki w celu zmiany istniejącego stanu rzeczy.

Przedsiębiorstwo „Las” otrzymało zalecenie zabraniające wywożenia kory pod las. Zalecenie to zostało już wykonane, a za opieszałość i nieporządek na terenie zakładu — na kierownika sporządzono wniosek do Kolegium d/s Wykroczeń.

W trakcie likwidacji jest również wysypisko śmieci przy drodze do wsi Kotły. Miejskie wysypisko śmieci przeniesione zostanie w głąb terenu położonego po stronie wschodniej tej drogi z zachowaniem wymaganej strefy ochronnej. Z wysypiska tego będzie korzystało Przedsiębiorstwo „Las”.

Za krytyczne uwagi dziękujemy Redakcji, gdyż są one pomocne w utrzymaniu bezpieczeństwa pożarowego, ładu i porządku.

Przewodniczący Prezydium PRN
(—) mgr Dymitr Ignatiuk




**Міра Лукша**, Баравое. „Вялікі бой“ надрукуем у „Парнасіку“.

**Васіль Асеннік**, Спічкі. І вашаму „П’яніцы“ таксама знойдзецца месца там.

**Ірэна Баравік**, Мора. Не хвалюйцеся, не адказваем на ўсе дасыланыя вамі вершы, бо лічым вас ужо самастойнай аўтаркай. Вершаў вашых у нас многа і не здзіўляйцеся, калі твор дасланы раней чакае сваёй чаргі, а друкуем вершы пазнейшыя. Нам ужо цяжка іх кантраляваць. Але гэта не бяда, горшае — не ўсё ў іх можам адчытаць. Пішыце выразней, пры нагодзе, абавязкова загляньце ў рэдакцыю.

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Małżeństwo” (franc.), 11—12, „Powrót z frontu” (radz.), 13—14. „Poszukiwanie” (hiszp.), 15—16.

**Чаромуха**

„Posłaniec” (angl.), 11—12. „Szklana kula” (polski), 15—16.

**Нараўка**

„Rzeczpospolita babska” (polski), „Rok pierwszy” (polski), 12—16.

**Нарва**

„Ktoś za drzwiami” (franc.), „Tajemnica Aleksandra Dumasa” (radz.), 12—16.

**Чыжы**

„Człowiek bez paszportu” (radz.), 12—14.

**Дубічы Царкоўныя**

„Na krawędzi” (polski), „Bez wyraźnych motywów” (franc.), 12—16.

**Арэшкава**

„Sokoły” (radz.), „Kozacy” (radz.), 15—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Anatomia miłości” (polski), 15—16.

**Міхалова**

„Planeta małp” (USA), 11—12. „Był sobie łajdak” (USA), 13—14. „Minuta milczenia” (radz.), 15—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Anatomia miłości” (polski), 12—16.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Napad stulecia” (angl.), 11—12 „Szepczące ściany” (angl.), 13—14. „Morderca samotnych kobiet” (NRD), 15—16.

**Мілейчыцы**

„Rok pierwszy” (polski) „Zaduszki” (polski), 12—16.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa”, Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch” w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911

BZGraf. Nakład 7.186 K-3

